ГА “Беларуская асацыяцыя журналістаў”
і кампанія “За фрыланс!” прадстаўляюць

парадні́к і прававы даведнік
для журналістаў-фрылансераў Беларусі

# АНАТОМІЯ фрылансу

Таццяна Бублікава
і Аляксандр Жук




Мінск, 2013

# Змест

# Уступ

Класічная анатомія вывучае будову арганізма, структуру тканак ды іх размяшчэнне. Сфера цікаўнасці аўтараў "Анатоміі фрылансу" падобная — паглядзець, з чаго складаецца фрыланс-журналістыка, адкуль яна бярэцца ды як функцыянуе, каб нарэшце зразумець, што гэта такое.

Фрыланс-журналістыка — з'ява ў Беларусі маладая. Слова "фрыланс" толькі пачало прыжывацца, журналісты сталі смялець ды часцей называць сябе па-заморску, а людзі паркысе разумець, што гэты "звер" не кусаецца. Гэта пазітыўная тэндэнцыя зменаў, якім, на жаль, вельмі часта чыняцца перашкоды. Каб у прафесійнай дзейнасці фрыланс-журналістаў гэтых перашкодаў рабілася ўсё менш, грамадскае аб'яднанне "Беларуская асацыяцыя журналістаў" (ГА "БАЖ") у 2012 годзе распачало кампанію "За фрыланс!". Кніга "Анатомія фрылансу" сталася падагульненнем нашага супольнага журналісцкага досведу ды эсэнцыяй ведаў аб фрылансе, што былі атрыманыя за першы год ажыццяўлення кампаніі.

Дапаможнік і прававы даведнік "Анатомія фрылансу" адрасаваны найперш журналістам-фрылансерам Беларусі. Аднак раздзелы аб законным статусе і прававых асновах дзейнасці журналіста-фрылансера таксама будуць карысныя для прадстаўнікоў дзяржаўных органаў, якія, здараецца, блытаюць фрылансераў з правапарушальнікамі.

У першым раздзеле кнігі разглядаецца праблема адсутнасці дэфініцыі "журналіст-фрылансер" у Беларусі. Аўтары ажыццяўляюць спробу знайсці вызначэнне тэрміну "журналіст-фрылансер", якое б цалкам адпавядала беларускай сітуацыі. Таксама прапануецца шырокае і вузкае вызначэнне тэрміну, што грунтуецца на даследаваннях грамадскай думкі.

Другі раздзел распавядае пра прычыны з'яўлення ў краіне журналістаў-фрылансераў. Разглядаюцца ўнутраныя псіхалагічныя і знешнія грамадска-палітычныя чыннікі. Паводле гэтых катэгорый вылучаецца фрыланс па сумленні і вымушаны фрыланс.

Трэці раздзел прысвечаны прававым выклікам і праблемам, з якімі сутыкаюцца журналісты-фрылансеры. Прыводзяцца дадзеныя спецыяльнага маніторынгу парушэння правоў журналістаў-фрылансераў, якія суправаджаюцца практычнымі рэкамендацыямі. Асобным пунктам разгледжана пытанне пасведчання журналіста-фрылансера.

Чацвёрты раздзел прысвечаны дзейнасці журналіста-фрылансера як працоўнай адзінкі. У ім — парады ад юрыста па легалізацыі, па магчымых для фрылансера варыянтах заключэння дамоваў. Раскрытыя асноўныя аспекты адлічэння падаткаў і дадзеныя карысныя рэкамендацыі, як журналіст-фрылансер можа аптымізаваць іх выплату.

Сёння ў беларускай журналістыцы адбываюцца дзіўныя рэчы. З аднаго боку, існаванне нацыянальных журналістаў-фрылансераў — бясспрэчны факт, жыццёвая дадзенасць, а з другога, юрыдычнага боку, іх быццам бы няма. Вы не знойдзеце ніводнага закону, указа, пастановы, дзе хоць слоўца было б напісана пра журналістаў-фрылансераў. Не кажучы ўжо пра пэўную, дакладную дэфініцыю, хто такія журналісты-фрылансеры.

Давайце ўявім, што аднойчы ўлада прызнанне існаванне журналістаў-фрылансераў і дазволіць выдаваць адмысловыя пасведчанні. Няхай пасведчанні выдае БАЖ ці нават Мініінфарм, або іншая якая інстытуцыя — не істотна. Важна, каго ды па якіх прыкметах мы тады будзем лічыць фрылансерам. Вось тады ўмець адрозніць журналіста-фрылансера ад, напрыклад, звычайнага графамана або блогера будзе жыццёва неабходна. А зараз гэта неабходна нам самім.

Пра напаўненне тэрміну “журналіст-фрылансер” ў Беларусі і думаць не прыйшлося б, калі б нашая журналісцкая супольнасць не сутыкалася з прававымі перашкодамі, сацыяльнымі ды фінансавымі выклікамі ў сваёй дзейнасці. Дакладнае, дэталёвае ўсведамленне таго, хто такі журналіст-фрылансер, вельмі патрэбнае для найбольш эфектыўнай абароны ды адстойвання правоў журналістаў-фрылансераў.

У Беларусі фрылансерства толькі пачынае шлях свайго ўмацавання. І як з гэтай прычыны мы не маем гатовай дэфініцыі, то прыйдзецца вызначыць яе самім. Гэтым і зоймемся ў першым раздзеле.

## Метады высвятлення сутнасці панятка “журналіст-фрылансер”

Да высвятлення сутнасці фрыланс-журналістыкі можна падыходзіць з розных бакоў:

1. Філалагічны — шукаць адказы ў лексічным сэнсе словаў.
2. Юрыдычны — апеляваць да законаў і законна-падзаконных актаў.
3. З боку міжнароднага права — пераняць дэфініцыі больш развітых супольнасцяў.
4. Фактычны падыход — гэта чыста даследчыцкая пазіцыя, апісанне з’явы ды выяўленне яе дыферэнцыяльных прыкметаў.

У такім жа парадку пабудаванае нашае даследаванне.

# Лексічны падыход

**Першым пра фрылансераў сказаў Вальтэр Скот**

Упершыню слова *фрылансер* выкарыстаў Вальтэр Скот у рамане "Айвенга" (1820 год), каб апісаць сярэднявечнага воіна-найміта (ад free lance — 'свабодная дзіда'). Гэты воін не прысягаў сваёй дзідай служыць нейкаму пэўнаму лорду. І гэта значыла, што "дзіда свабодная" для замовы. У 1860-х словы *фрыланс* і *фрылансер* ужо выкарыстоўваліся ў пераносным сэнсе, а ў 1903 годзе Оксфардскі слоўнік зафіксаваў дзеяслоў, утвораны ад першапачатковага назоўніка.



А сёння мы маем справу з тэрмінам "журналіст-фрылансер". Ён складаецца са словаў *журналіст* і *фрылансер*. Адпаведна, і ягонае значэнне складанае: сумяшчае назву прафесіі або роду заняткаў асобы ('журналіст') ды найменне асобы па спосабе, якім яна рэалізуе свае прафесіянальныя задачы ('фрылансер').

Калі са словам *журналіст* усё зразумела, то аналіз сэнсу слова *фрылансер* мае цікавыя акалічнасці. У нашай мове гэта слова запазычанае ў амерыканцаў. І яго лексічнае значэнне мусіла б паўтараць значэнне слова-крыніцы. Але гэта не так. Сучасныя слоўнікі запазычаных словаў даюць наступнае значэнне слова *фрылансер*: *[англ. freelancer<freelance — працаваць не па найме] амер. пазаштатны карэспандэнт, незалежны журналіст, які сам абірае тэмы будучых матэрыялаў. Фрылансер не звязаны з пэўнай рэдакцыяй.*



**ФРИЛЕНСЕР**

[англ. freelancer < freelance - работать не по найму] - амер. внештатный корреспондент, независимый журналист, который сам выбирает темы будущих материалов. Ф. не связан с определенной редакцией.

(Источник "Словарь иностранных слов", Комлев Н.Г., 2006)

*Вытрымка са слоўніка запазычаных словаў*

Розніца паміж значэннем нашага і амерыканскага слова *фрылансер* відавочная, і мы як носьбіты мовы гэта адчуваем. У ЗША так называюць асобаў, прыналежных да выключна журналісцкага віду дзейнасці. У нас слова *фрылансер* пакуль што ўжываецца ў шырокім

сэнсе і прымяняецца для абазначэння шырокага кола працаўнікоў інтэлектуальнай сферы. Гэтак, у нас бываюць мастакі-фрылансеры, дызайнеры-фрылансеры, айцішнікі-фрылансеры і г.д. Што цікава, у англійскай мове фрылансерам таксама называюць прафесійнага палітыка, які не прывязаны да нейкай пэўнай партыі. Шырокі, у параўнанні з амерыканскім, сэнс нашага слова *фрылансер* цалкам адлюстроўвае стан спраў у гэтай сферы: мы пакуль што знаходзімся ў самым пачатку працэсу нармалізацыі і кадыфікацыі дадзенай моўнай адзінкі.

Такім чынам, з пункту гледжання лексікі можна прапанаваць наступныя дэфініцыі тэрміна *журналіст-фрылансер*.

> *сцісла*: **Журналіст-фрылансер** (свабодны журналіст, пазаштатны журналіст) — гэта журналіст, які ажыццяўляе сваю дзейнасць без працоўнага найму.
>
> *дэталёва*: **Журналіст-фрылансер** (свабодны журналіст, пазаштатны журналіст) — гэта найменне асобы, якая ажыццяўляе журналісцкую дзейнасць на прафесійнай або іншай аснове ва ўмовах самазанятасці, без доўгатэрміновых працоўных стасункаў з нейкай пэўнай рэдакцыяй.

## Юрыдычны падыход

**Прафесійная дыскрымінацыя — у законе**

На жаль, беларускае заканадаўства не дапамагае зразумець, хто такі журналіст-фрылансер. З гэтым аспектам шчыльна працуюць юрысты БАЖа. Вынікі іх работы можна знайсці ў брашуры “Прававое рэгуляванне дзейнасці журналістаў-фрылансераў”, якая выйшла ў 2012 годзе. Тут грунтоўна прааналізаваныя падыходы да рэгулявання дзейнасці журналістаў-фрылансераў у Беларусі ды іншых краінах еўрапейскага рэгіёну. У сваю чаргу, мы прапануем кароткі каментар сітуацыі.

Беларускае заканадаўства прапануе нам тлумачэнне толькі першай часткі панятку *журналіст-фрылансер*, дый то з пэўнымі абмежаваннямі.

Гэтак, Закон пра СМІ 2008 года вызначае не проста журналіста, а менавіта *журналіста сродку масавай інфармацыі*.

**Журналіст сродку масавай інфармацыі** — гэта фізічная асоба, якая займаецца зборам, рэдакцыяй і стварэннем (падрыхтоўкай) інфармацыйных паведамленняў для юрыдычнай асобы, на якую ўскладзеныя функцыі рэдакцыі сродку масавай інфармацыі, звязаная з гэтай юрыдычнай асобай працоўнымі адносінамі або іншымі дамовамі.

Некалькі акалічнасцяў у гэтым вызначэнні звяртаюць на сябе ўвагу:

- законатворца звужае паняцце “журналіст” да тэрміну “журналіст сродку масавай інфармацыі”,
- звужаючым фактарам выступаюць адносіны з афіцыйнай (чытай зарэгістраванай) рэдакцыяй СМІ — працоўныя або на падставе іншых дамоваў,
- логіка гэтага закона выкідае за межы прававога поля шэраг журналістаў, якія працуюць для незарэгістраваных СМІ — медый, пазбаўленых рэгістрацыі, медый, для якіх рэгістрацыя не прадугледжаная (інтэрнэт-СМІ), медый, якім дзяржава адмаўляе ў рэгістрацыі.

Паводле логікі закона, калі асоба, якая займаецца журналістыкай, не мае працоўных або іншых адносінаў менавіта з афіцыйнай рэдакцыяй СМІ, то акрэсленыя ў дадзеным законе правы і абавязкі журналіста на яе не распаўсюджваюцца. Сумна канстатаваць, але дадзены дакумент дыскрымінуе па прыкмеце прафесійнай прыналежнасці большасць журналістаў-фрылансераў і нават штатнікаў, што працуюць у інтэрнэце.

Што да другой часткі панятку *журналіст-фрылансер*, то беларуская юрыспрудэнцыя пра гэта маўчыць. На афіцыйным узроўні тэрмін *журналіст-фрылансер* фігуруе толькі ў вусных размовах, калі суды, пракуратура або КДБ спрабуюць парушыць журналісцкія правы або прыцягнуць тых самых журналістаў-фрылансераў да нейкай адказнасці.

Па сталай практыцы, **самі фрылансеры прыбягаюць да тлумачэнняў афіцыйным асобам сутнасці фрыланс-журналістыкі** і робяць гэта дзеля сваёй прававой абароны.

На ўсе тлумачэнні і апеляцыі да міжнароднага права мы маем тыповы афіцыйны адказ: фрыланс-журналістыка беларускім заканадаўствам не прадугледжаная, ваш статус журналіста не даказаны, таму вы парушаеце вось гэты пункт закона пра СМІ. І далей ідзе фармулёўка “віны”: або праца журналістам іншаземнага СМІ без акрэдытацыі на тэрыторыі РБ, або незаконнае прысвойванне статусу журналіста СМІ.


ГА «Беларуская асацыяцыя журналистаў»
вул. Камсамольская, 7-32
220030 г. Мінск

Паведамляем, што Ваш зварот разгледжаны УУС адміністрацыі Цэнтральнага района г. Мінска.

Усю інфармацыю якая Вас цікавіць Вы можаце атрымаць у аддзеле інфармацыі і грамадскіх сувязей ГУУС Мінгарвыканкама.

Начальник МГБ А.У. Шахлай

*Адказ з міліцыі на прапанову сябраў ГА "БАЖ" удасканаліць стасункі супрацоўнікаў дадзенага РУУС з журналістамі-фрылансерамі*

Такім чынам, прыходзім ды высновы, што нацыянальнае права не мае дэфініцыі "журналіст-фрылансер", а таксама адэкватнага вызначэння, хто такі журналіст.

## Міжнароднае права

**Без лішніх словаў**

Замежнікі не такія пладавітыя на вызначэнне журналіста-фрылансера, як хацелася б. У іх няма вялікай патрэбы вылучаць гэтую катэгорыю з агульнай журналісцкай супольнасці, ды колькасць выпадкаў парушэнняў правоў журналістаў зайздросна малая. Аднак, калі мы хочам дэфініцыю, еўрапейцы маюць што прапанаваць.

Паводле фармулёўкі Фонда ім. Роры Пека:

> **Фрылансер** — гэта журналіст, у якога няма сталага кантракту з медыя-арганізацыяй, ён працуе ў некалькіх СМІ без фіксаванага заробку, атрымліваючы ганарары за кожнае асобнае заданне.

Паводле Вікіпедыі:

> **Фрылансер** (пазаштатны работнік, пазаштатнік) — гэта самазанятая асоба, якая не звязаная з канкрэтным працадаўцам у доўгатэрміновай перспектыве.

Гэтага цалкам дастаткова для нашай задачы. А патрэбу пашырыць свае веды ў гэтым кірунку можна задаволіць, звярнуўшыся да крыніцы, якая ўжо згадвалася — брашура "Прававое рэгуляванне дзейнасці журналістаў-фрылансераў".

# Фактычны падыход

**А як на самой справе?**

Сапраўдныя навукоўцы, калі бачаць незнаёмага звера, імкнуцца паназіраць за ім, даведацца пра яго як мага болей і толькі потым ствараюць пра яго артыкул у тэматычнай энцыклапедыі. Такі шлях прыдатны таксама для нас: варта толькі апісаць з'яву і вылучыць яе дыферэнцыйныя прыкметы.

Напрацягу 2012 года мы вывучалі ўяўленні беларускіх журналістаў пра фрыланс, шукалі крытэры самавызначэння беларускіх фрылансераў. Інфармацыя збіралася шляхам анкетавання, адкрытых апытанняў у сацыяльных сетках, а таксама ў фармаце персанальных інтэрв'ю — гэта спецыяльны праект БАЖа “Марфалогія фрылансу”.

**Апытанне журналісцкай думкі**, якое правялі на пачатку 2012 года, было адкрытым і мела на мэце выявіць прыкметы журналіста-фрылансера. Было прапанавана працягнуць думку: “Беларускім журналістам-фрылансерам можна назваць чалавека, калі ён/яна…”



Большасць удзельнікаў апытання палічыла галоўнай прыкметай журналіста-фрылансера тое, што **асноўны даход** (>50%) складаюць ганарары ад журналісцкіх матэрыялаў.

На другім і трэцім месцы знаходзяцца пункты, якія апісваюць **стасункі з замоўцам**. Гэтак, іх у журналіста-фрылансера можа быць некалькі або адзін, пры гэтым журналіст працуе не ў штаце.

Бок сацыяльнага забеспячэння журналістаў-фрылансераў сярод сэнсавызначальных прыкмет займае другасную пазіцыю. Такія прыкметы фрылансерскай долі, як адсутнасць гарантаванага аплочваемага адпачынку, медычнага забеспячэння, а таксама працу па-за офісам, журналісты ставяць на апошнія месцы па актуальнасці. Сфера **легалізацыі сябе як суб'екта гаспадарання**, што ў апытанні паказана праз самастойную сплату падаткаў, знаходзіцца на перыферыі актуальнасці прыкметаў фрылансера.

**Самавызначэнне фрылансераў.** Блізкія погляды на сутнасць фрылансу аказаліся і ў саміх журналістаў-фрылансераў. У межах анкетавання журналістаў-фрылансераў, што праводзілася ў кастрычніку 2012 года, было зададзена пытанне: "Што з ніжэй пазначанага вызначае журналіста-фрылансера?"

**Сутнасць фрылансу**

14. Што з ніжэй пазначанага вызначае журналіста-фрылансера? (Можна выбраць некалькі варыянтаў)

- ☐ Асноўны даход складаюць ганарары ад журналісцкіх матэрыялаў
- ☐ Супрацоўнічае з некалькімі рэдакцыямі сми
- ☐ Супрацоўнічае з адной рэдакцыяй смі, але не мае з ёй працоўнай дамовы (не блытайце з дамовай падраду)
- ☐ Мае працоўную дамову з адной рэдакцыяй смі, але супрацоўнічае з іншымі рэдакцыямі смі, з чаго мае асноўны даход
- ☐ Пазаштатны карэспандэнт таксама фрылансер
- ☐ Свой варыянт

Рэспандэнты найбольш упадабалі пункты 2 і 5: "супрацоўнічае з некалькімі рэдакцыямі СМІ" і "пазаштатны карэспандэнт таксама фрылансер". То бок для ўдзельнікаў анкетавання важнейшымі з'яўляюцца факты супрацы з больш чым адной рэдакцыяй без працоўнай дамовы/пазаштатна. На трэцяе месца па важнасці стаў пункт пра даходы з ганарараў.

Што датычыць разнастайнасці форм супрацы — ці можа фрылансер пазаштатна працаваць на адну рэдакцыю, ці можа ён мець працоўную дамову з пэўнай рэдакцыяй, але супрацоўнічаць з іншымі — то для рэспандэнтаў тут вялікай розніцы няма. Такія формы супрацы прызнаюцца як магчымыя для фрылансераў, аднак па важнасці займаюць другасную пазіцыю.

З асцярожнасцю рэспандэнты паставіліся да пункта, які вызначае ў якасці фрылансера сталага супрацоўніка пэўнай рэдакцыі, які, аднак, пазаштатна супрацоўнічае з іншымі, з чаго і мае асноўны даход.

**Панятак пра чысты і змешаны фрыланс**

Дзеля справядлівасці варта зазначыць, што ўсе 5 прапанаваных у анкеце пунктаў у пэўнай ступені з'яўляюцца вызначальнымі для журналіста-фрылансера. Яны суадносяцца з міжнароднай пазіцыяй ды адпавядаюць меркаванням саміх журналістаў, прадстаўленым у праекце "Марфалогія фрылансу".



Журналістка Адар'я Гуштын доўгі час працавала ў рэжыме фрыланс і ведае сітуацыю з сярэдзіны. Яна кажа:
*"Падаецца, што гэта супрацоўнік нейкай рэдакцыі, але калі паглядзець агулам на яго працу, то ён працуе адначасова з пяццю выданнямі, мне здаецца, што яго спакойна можна прылічыць да фрылансераў".*

Таму мяркуем, што для беларускай сітуацыі будзе слушна адрозніваць фрыланс-журналістыку ў *чыстым выглядзе і змешаным.*

**Пад чыстым, хрэстаматыйным фрылансам мы разумеем**:

Журналіст-фрылансер — чалавек, які ажыццяўляе журналісцкую дзейнасць на прафесійнай аснове, які супрацоўнічае з адным і болей СМІ пазаштатна, што значыць, не мае сталай працоўнай дамовы (кантракту); прыкмета прафесійнасці дзейнасці вынікае з факту, што ён атрымлівае асноўную частку даходаў ад журналісцкай дзейнасці.

Важна, што ў дзейнасці чалавека ёсць **дзве генеральныя прыкметы** журналіста-фрылансера: 1) чалавек займаецца журналістыкай прафесійна (г.зн. жыве за даход ад журналісцкай дзейнасці), 2) ажыццяўляе сваю дзейнасць у фармаце фрыланс (г.зн. не звязаны з пэўнай рэдакцыяй працоўнай (у юрыдычным сэнсе) дамовай).

**Да змешанага віду фрыланс-журналістыкі мы адносім** сітуацыі, калі адна з генеральных умоваў выконваецца часткова — фрылансерская дзейнасць або журналісцкая.

Напрыклад, у адным СМІ прафесійны журналіст працуе ў штаце, а з іншым супрацоўнічае пазаштатна, аднак вялікую частку яго даходаў складаюць ганарары. Таксама сюды адносяцца выпадкі, калі не да канца выконваецца генеральная ўмова журналісцкай дзейнасці. Напрыклад, чалавек можа працаваць у рэжыме фрыланс, але ў якасці журналіста толькі пэўную частку свайго часу, астатні час, да прыкладу, прысвячаць выкладчыцкай дзейнасці.

У памежных сітуацыях, калі паўстае вялікая неабходнасць ідэнтыфікаваць журналіста-фрылансера, варта мець на ўвазе адпаведнасць генеральным прыкметам. Ды таксама не забывацца на наступныя акалічнасці.

1 **Даход:** калі больш за 50% даходу складаюць выплаты за журналісцкую дзейнасць, то чалавек з'яўляецца журналістам.

2 **Час:** праца ў рэжыме фрыланс не з'яўляецца пастаяннай велічынёй і не можа быць неад'емнай характарыстыкай чалавека. Гэта не колер скуры або форма вачэй. Замоўца можа наняць спецыяліста на выкананне пэўнага задання, для працы над пэўным праектам, для напісання пэўных тэкстаў. На час выканання гэтай замовы спецыяліст лічыцца фрылансерам.

3 **Прафесійнасць.** Пісаць умеюць усе, але не ўсе з'яўляюцца журналістамі. Наяўнасць або адсутнасць журналісцкага дыплому тут не вызначальная. Журналіст мусіць валодаць наборам прафесійных ведаў, уменняў і навыкаў ды якасна іх прымяняць на практыцы, пажадана ў рэгулярным фармаце.


крыніца: http://professionali.ru/

Як тэатр пачынаецца з вешалкі, так і фрыланс пачынаецца з працы ў рэдакцыі. Прынамсі, класічны. Традыцыйны шлях журналіста ў фрыланс выглядае наступным чынам. Журналіст пэўны час займае нейкую пасаду ў штаце, пасля чаго сыходзіць на вольны хлеб. Штуршком можа стаць вымушанае скарачэнне, звальненне або асабістае рашэнне аб сыходзе з рэдакцыі. Калі журналісту ўдаецца пераадолець выклікі самазанятасці — знаходзіць канкурэнтныя тэмы, выгодна прадаваць іх, атрымліваць задавальняюча высокія ганарары ды напрацоўваць аўтарэтэт для ўласнага імя, — то ён можа прыняць рашэнне працаваць у рэжыме фрыланс у доўгатэрміновай перспектыве.

Гэта **класічны шлях у фрыланс** заходнееўрапейскага ўзору, чалавек робіць гэты выбар па сумленні. У нашай краіне журналістаў, што прыйшлі да фрылансу такім шляхам, вельмі мала. Па традыцыі апошніх 17 год, у Беларусі ёсць свой асаблівы метад.



Тэлеаператар Аляксандр Баразенка, які прадае свае здымкі на “Белсат”, ОРТ і іншыя тэлеканалы, кажа:

*“Зараз варункі, у якіх мы працуем, такія, што немагчыма працаваць журналісту на сталым месцы. Бо, акрамя дзяржаўнага тэлебачання, няма нічога. Таму фрыланс для мяне зараз адзіны шлях, якім мне ўдаецца зарабляць на жыццё і рабіць тое, што падабаецца”.*

**Несвабодны медыйны рынак вымушае** пэўную колькасць рэдакцый працаваць на паўлегальным становішчы. І іх супрацоўнікаў адпаведна. Калі СМІ не атрымлівае рэгістрацыі на тэрыторыі РБ, то рэдакцыі прыходзіцца наладжваць працу з-за мяжы. Паводле беларускіх законаў штатныя карэспандэнты, што працуюць на тэрыторыі Беларусі, мусяць мець акрэдытацыю.

Вельмі часта органы адмаўляюць журналістам у акрэдытацыі, таму працоўныя стасункі паміж рэдакцыяй і журналістамі будуюцца ў фармаце фрыланс. Натуральна, адмова ў акрэдытацыі не адзіная прычына, па якой замежныя рэдакцыі не афармляюць стасункі з журналістамі належным чынам, не бяруць апошніх у штат. Тым не менш, гэткія ўмовы працы спараджаюць даволі вялікае войска фрылансераў.

Паводле [словаў](#) прэс-сакратара тэлевізіі “Белсат” Сяргея Пялесы, **на тэрыторыі Беларусі для каналу “Белсат” працуе каля 100 карэспандэнтаў**. З многімі з іх стасункі афармляюцца дамоваю, змест якой аналагічны нашым дамовам падраду. Гэта робіць з супрацоўніка па сутнасці фрылансера.

### Umowa o dzieło і вымушаны фрыланс

З журналістам заключаецца не працоўная дамова, а, да прыкладу, дамова падраду (па-польску *umowa o dzieło*). Гэта значыць, што карэспандэнты працуюць не ў штаце, за сваю прадукцыю атрымліваюць толькі ганарары, не маюць аплочваемага працоўнага адпачынку і іншых сацыяльных гарантый. Гэткім чынам пабудаваная праца не толькі ў рэдакцыях розных перадач “Белсату”, але і на “Радыё Рацыя”. Заўважым, што журналісты апошняй рэдакцыі па дамоўленасці з кіраўніцтвам маюць аплочваемы адпачынак.

Важна, што ў такіх медыях журналісты працуюць у рэжыме фрылансу не па сваім выбары, а вымушана. Таму мы называем гэта **“вымушаны фрыланс”**.

Інстытут акрэдытацыі карэспандэнтаў замежных СМІ вымушае многія рэдакцыі прыбягаць да супрацы з журналістамі ў рэжыме фрылансу. Як гэта адбываецца? Да прыкладу, нейкае радыё мае права акрэдытаваць на тэрыторыі Беларусі 10 журналістаў. Іх акрэдытоўваюць і афармляюць у штат. Астатнія дзясяткі карэспандэнтаў, без якіх, вядома, немагчымая паўнавартасная праца СМІ, працуюць без акрэдытацыі і, натуральна, без афармлення ў штат. Часам наагул праца пабудаваная на падставе вусных дамоўленасцяў. Нягледзячы на тое, што гэткія працоўныя стасункі могуць быць вельмі працяглыя па часе, мы схільныя лічыць гэта таксама фрылансам — вымушаным.



Андрэй Каравайка, які набыў сваю вядомасць як журналіст рэсурса Tut.by, мяркуе пра паходжанне фрылансераў у Беларусі наступнае:

*“Адна справа, калі журналіста звальняюць і ён вымушаны працаваць некаторы час у фрылансе, пакуль не знойдзе новае месца. Іншая справа, калі чалавек сам абірае быць свабодным і працаваць на сябе, а не на кагосьці, самастойна вызначаць для сябе задачы ў прафесіі — такіх людзей вельмі мала. Гэта зусім іншая справа”.*

Наяўнасць такіх людзей, якія самастойна выбіраюць фрылансерскі шлях, робяць гэта па сваім жаданні, слухаючыся голасу сумлення, а не пад ціскам абставінаў, дазваляе меркаваць:

> у Беларусі існуюць як мінімум дзве катэгорыі фрылансераў паводле паходжання. Гэта **журналісты-фрылансеры вымушаныя** і **журналісты-фрылансеры па сумленні**.



Адар'я Гуштын кажа, што фрылансераў па сумленні мала, і звяртае ўвагу шчэ на адну прычыну, якая вымушае людзей займацца фрылансам, маючы штатны аклад:

*"Мала хто становіцца фрылансерам, таму што ў яго такая ўнутраная патрэба, таму што ён чалавек такі. Часцей за ўсё людзі займаюцца гэтым у пошуках грошай".*

**Перавагі фрылансу над працай у офісе**

Напрыканцы гэтай часткі мы хочам сказаць пра пазітыўныя прычыны, якія штурхаюць людзей да сумленнага пераходу на аддаленую ад офіса працу.

1 Сам сабе гаспадар: фрыланс-журналістыка падыходзіць вельмі самастойнаму чалавеку, які любіць сам сабе ставіць задачы і вырашаць іх. Фрыланс для тых, каму зручней працаваць без субардынацыі і кантролю.

2 Свабода выбару: фрылансер можа дазволіць сабе не займацца нецікавай яму працай або праектамі. На жаль, штатныя супрацоўнікі вымушаныя выконваць тое, што загадае начальства, нават калі ім гэта нецікава.

3 Больш свабодны графік: ты не прывязаны да рэдакцыйнага раскладу і можаш сам кантраляваць і планаваць свой час. Многія фрылансеры могуць дазволіць сабе дадатковае навучанне або незапланаваныя падарожжы.

4 Эканомія часу: ты не выдаткоўваеш час на штодзённыя паездкі з дому на працу і назад. Плюс не вымушаны, у адрозненне ад штатных калег, адседжваць у офісе працоўныя гадзіны ў выпадку, калі працы няма.

5 Эканомія рэсурсаў: ты не выдаткоўваеш сродкі на паездкі ў офіс, эканоміш на харчаванні ў сталоўках або кавярнях, дома няма дрэс-коду, таму адпадаюць выдаткі на новыя дзелавыя строі.

6 Карысць для здароўя: аддаленая ад офіса праца выклікае менш стрэсаў, дзякуючы больш здароваму харчаванню, вы прыносіце сабе карысць.

7 Праца з дому мае больш высокую прадукцыйнасць: людзі менш хварэюць, менш ходзяць на перакуры і займаюцца другаснымі рэчамі.

У гэтым спісе няма недахопаў і слабых бакоў фрылансу, пра іх гаворка пойдзе далей. Тут мы хацелі акцэнтаваць увагу на асноўных прычынах, якія прыводзяць людзей да сумленнага выбару на карысць фрылансу.



крыніца здымка: http://boomrest.ru/novichkam/sposobfreelance.html

Большасць выклікаў, з якімі сутыкаюцца беларускія журналісты-фрылансеры, тыповая для ўсёй нацыянальнай супольнасці незалежных журналістаў. Доступ да інфармацыі, цяжкасці ў камунікацыі з афіцыйнымі ўстановамі, праблемы з міліцэйскім і судовым пераследам. Аднак у фрылансе ёсць адна засмучальная асаблівасць — гэтыя праблемы здараюцца часцей і вырашаюцца цяжэй.

Акрамя вышэй названых, перад фрылансерамі таксама паўстаюць свае ўнікальныя праблемы. Яны палягаюць ва ўзаемадзеянні з замоўнікамі, у неўладкаванасці сацыяльнага боку прафесійнай дзейнасці, звязаныя з велічынёй тарыфаў ды пакуль што непрывабным іміджам журналіста-фрылансера.

Мы падзялілі праблемы паводле сфераў, у якіх яны ўзнікаюць. Атрымалася тры катэгорыі:

- Журналіст і крыніцы інфармацыі.
- Журналіст і афіцыйныя праваахоўныя ўстановы — міліцыя, суд, пракуратура і інш.
- Журналіст як працоўная адзінка: самазанятасць, сацыяльная абароненасць і г.д.

У наступных частках больш падрабязна разглядаем цяжкасці, з якімі сутыкаюцца фрылансеры, ды прапануем некаторыя парады, як журналісту-фрылансеру палепшыць сваё самаадчуванне ў прафесіі.

## Фрылансер і крыніцы інфармацыі

Доступ да інфармацыі — самая актуальная і адчувальная прабелма для беларускага журналіста-фрылансера. Гэта паказваюць вынікі ўнутранага анкетавання сяброў ГА “БАЖ”, якія з’яўляюцца фрылансерамі.

Сярод адказаў на пытанне “Што выклікае найбольшыя цяжкасці падчас прафесійнай дзейнасці?” найбольш галасоў набраў адказ **“збор інфармацыі”.**

Прапануем рэйтынг праблемных сфераў прафесійнай дзейнасці фрылансераў паводле вынікаў апытання.

**Пытанне:** Што выклікае найбольшыя цяжкасці падчас прафесійнай дзейнасці?

**Адказы:**

Збор інфармацыі — 56% галасоў.

Публікацыя матэрыялаў — 24% галасоў.

Нараджэнне тэмы — 16% галасоў.

Праблемы, што ўзнікаюць пасля апублікавання, —4%.

Скласці ўяўленне, якія суб'екты ствараюць праблемы для журналістаў-фрылансераў, дапамогуць наступныя дадзеныя. У той жа анкеце рэспандэнтам было прапанавана ацаніць, наколькі часта прыходзіцца сутыкацца з праблемамі з боку розных суб'ектаў, а таксама наколькі праблемы, што ствараюць ніжэйназваныя суб'екты, адчувальныя, сур'ёзныя.




Сярод крыніцаў праблем сумнае лідэрства атрымалі **афіцыйныя крыніцы інфармацыі**. Яны **часцей за ўсё ствараюць перашкоды ў прафесійнай дзейнасці журналістаў**. І гэтыя праблемы, паводле сукупнасці суб'ектыўных ацэнак, маюць найбольшы негатыўны ўплыў на дзейнасць журналістаў.

Неафіцыйныя крыніцы інфармацыі выклікаюць перашкоды ў журналісцкай дзейнасці ў 5 разоў радзей за афіцыйныя, аднак ацэнка адчувальнасці гэтых праблемаў адносна высокая. Яна вышэйшая за ацэнку паўтаральнасці і толькі ў два разы ніжэй за аналагічны паказчык у афіцыйных крыніцаў.

Прадказальна, **другое, трэцяе і чацвёртае месца па праблемнасці занялі міліцыя, пракуратура і суды**. За імі ідуць падатковыя органы. Што да замоўцаў і калег, то з імі праблемы здараюцца радзей за ўсё, але ацэнка іх сур'ёзнасці мае адносна высокую ступень.

З якімі канкрэтнымі выклікамі сустракаюцца журналісты ў сваёй практыцы? Пра гэта мы даведваемся з каментароў, што пакінулі рэспандэнты ў анкеце.

**Сутнасць праблемаў**

Галоўныя прычыны праблемаў — палітычная сістэма ў краіне, сістэма фільтраў. Для працы часта патрэбная акрэдытацыя, якую не даюць.

Фармальныя крыніцы інфармацыі падпарадкоўваюцца Лукашэнку. Афіцыйныя крыніцы закрытыя ад грамадства, не жадаюць размаўляць з фрылансерамі, дзяліцца інфармацыяй.

Нефармальныя крыніцы, простыя людзі баяцца агалошвання іх праблем, баяцца публікацый.

Замоўцаў часта не хапае, або яны не гатовыя шукаць новых аўтараў. Часта іх цяжка запэўніць у важнасці тэмы.

Калегі становяцца прычынай праблемаў, калі баяцца канкурэнцыі, калі перадрукоўваюць, скажаючы сэнс і парушаючы аўтарскія правы.

**Легальнае пасведчанне — корань праблемаў**

Фрылансерская супольнасць лічыць, што доступ да інфармацыі — агульная праблема для ўсіх журналістаў. Прывесці справы ў ідэальны стан можна разам са зменай пануючага палітычнага ладу, чаго не прадбачыцца ў кароткатэрміновай перспектыве.




Аднак ужо сёння можна мець магчымасць карыстацца роўнымі са штатнікамі правамі, можна палепшыць сітуацыю, зрабіўшы самаадчуванне фрылансераў больш упэўненым. Такія выгоды дае легальны статус, працей — наяўнасць легальнага журналісцкага пасведчання.

Заўважым, што паводле беларускага заканадаўства журналіст мае безумоўнае права на атрыманне інфармацыі без падзелу на штатнікаў і фрылансераў. Аднак Закон пра СМІ абавязвае журналіста даказваць свой журналісцкі статус пры першым жа патрабаванні якой заўгодна асобы. Статус пацвярджаецца пасведчаннем дзяржаўнага ўзору.




*Журналісцкія пасведчанні для фрылансераў існуюць. Гэта факт!*

Пра разнастайныя варыянты яго атрымання чытайце ў парадах юрыста Аляксандра Жука ў раздзеле "Журналіст як працоўная адзінка". А напрыканцы гэтай часткі коратка разгледзім варыянты працы без пасведчання дзяржаўнага ўзору.



Цяпер жа прапануем да ўвагі чытачоў практычныя рэкамендацыі па гэтай тэме ад нашай калегі, журналісткі Сабіны Брыло. Яна з'яўляецца адным з аўтараў дапаможніка па бяспецы для беларускіх журналістаў "У зоне рызыкі". У гэтым выданні разгледжаныя практычныя і юрыдычныя аспекты журналісцкай бяспекі, прыведзены парады спецыялістаў у галіне права і псіхалогіі, а таксама высновы саміх журналістаў у выпадках, калі ўзнікаюць небяспечныя сітуацыі.

**Роль журналистского удостоверения при работе на массовых акциях**

Накануне одной из акций летом 2011 года пресс-секретарь ГУВД **Александр Ластовский** предупреждал в своем блоге журналистов: «Если вы журналист (см. определение в Законе Республики Беларусь «О СМИ»), у вас должно быть редакционное удостоверение либо аккредитация МИД РБ установленного образца. Если у вас аккредитации или удостоверения нет или вы отказываетесь их предъявить — вы участник несанкционированной акции и, следовательно, можете быть подвергнуты административной ответственности по ст. 23.34 КоАП РБ… **Блогеры, фрилансеры по белорусскому законодательству — не журналисты, но небольшие исключения могут быть сделаны тем, кого я знаю лично.** Таковым необходимо иметь при себе документ, удостоверяющий личность, и найти меня».

Действительно ли белорусские фрилансеры «не являются журналистами»?

Юристы отмечают, что, вопреки этому распространенному мнению, белорусское законодательство о СМИ не запрещает журналистскую деятельность в режиме фриланс, хотя и не содержит норм, ей непосредственно посвященных. П. 7 ст. 1 Закона о СМИ называет журналистом не только штатных сотрудников редакции СМИ, но и лиц, связанных с редакцией и другими договорными отношениями — например, договором на оказание услуг, авторским договором. Ключевым здесь является то, что журналист занимается сбором, редактированием и созданием (подготовкой) информационных сообщений и материалов для СМИ. Однако в целях повышения безопасности при работе на массовых акциях юристы советуют журналистам все же обзаводиться служебными удостоверениями.

**Почему у вас спрашивают удостоверение?** — Сотрудники правоохранительных органов ссылаются на п. 4.9 ст. 34 Закона о СМИ, в соответствии с которым журналист при осуществлении профессиональных обязанностей обязан предъявлять по требованию служебное удостоверение. **Что делать фрилансерам (в том числе сотрудничающим с  зарубежными СМИ)?** — Получить служебное удостоверение внештатного корреспондента средства массовой информации, зарегистрированного в Беларуси.

**Что делать журналистам, сотрудничающим с интернет-ресурсами?** — При невозможности получить служебное удостоверение внештатного корреспондента они могут подстраховаться служебным удостоверением корреспондента интернет-ресурса с печатью его редакции (даже несмотря на то, что сегодня абсолютное большинство сайтов не рассматриваются в Беларуси как СМИ). Иметь с собой удостоверение члена журналистской организации. Однако надо учитывать, что с 2010 г., когда Минюст признал незаконной выдачу членам БАЖ бейджей с надписью «Пресса» — такие удостоверения свидетельствуют лишь о принадлежности к журналистской организации, а не о статусе журналиста.

К сожалению, наличие удостоверения — даже иностранного корреспондента, даже корреспондента иностранного СМИ, аккредитованного при МИД РБ, — не спасает журналистов, работающих на массовых акциях протеста в Беларуси, ни от избиения, ни от задержания, ни от повреждения техники. Однако в большинстве случаев оно позволяет избежать привлечения к административной ответственности, штрафа или ареста.

**Аб пасведчанні журналіста-фрылансера**




У свеце ёсць журналісты, якія працуюць, маючы пасведчанне журналіста-фрылансера. Такі дакумент выдаюць нацыянальныя саюзы журналістаў або рэдакцыі, з якімі фрылансер стала супрацоўнічае. Прэс-картка мае традыцыйны выгляд, толькі ў месцы, дзе пазначаецца пасада журналіста, напісана "фрылансер".

У Беларусі таксама існуе штосьці падобнае, але ў нефармальным выглядзе. Фрылансеры заводзяць сабе такія пасведчанні самастойна. Яны маюць выгляд бэйджа, бо на масавых мерапрыемствах яго зручна вешаць на адзенне, каб вылучыць сябе з шэрагу ўдзельнікаў.

Калі журналіст не можа атрымаць пасведчанне дзяржаўнага ўзору, то ён ідзе іншым шляхам ды ідэнтыфікуе сябе агульназразумелым чынам.



У Беларусі падобныя пасведчанні мае шэраг беларускіх фрылансераў, сярод якіх і фатограф Антон Сурапін. Упершыню з такім спосабам вырашэння праблемы ён сутыкнуўся ўва Інстытуце журналістыкі БДУ. Тут пасведчанні накшталт фрылансерскіх фігуруюць на афіцыйным ўзроўні. Іх падпісвае дырэктар Інстытута журналістыкі Сяргей Дубовік. Прыемна ўсведамляць, што логіка афіцыйных чыноўнікаў у журналістыцы развіваецца ў адным з нашай накірунку.

**Фрылансер мае права** абазначыць сябе ў якасці журналіста з дапамогай такога пасведчання. І гэта цалкам законна як мінімум па дзвюх прычынах.




1) журналіст-фрылансер не прэтэндуе на статус журналіста СМІ, а закон прадугледжвае пацвярджэнне статуса праз пасведчанне дзяржаўнага ўзору толькі для журналістаў рэдакцыі СМІ;

2) у пасведчанні не выкарыстоўваюцца неправамоцна дзяржаўныя сімвалы, адзнакі, пячаткі дзяржаўных органаў, што ў адваротным выпадку было б незаконна.

Акцэнтуем увагу на чыста юрыдычным баку шчэ раз: фармальна такія прэс-карткі не лічацца дакументальным пацвярджэннем вашага статусу **журналіста СМІ**. Але разам з тым іх нашэнне не з'яўляецца нейкім правапарушэннем.

І калі картка фрылансера дапамагае пазбегнуць лішняй цікаўнасці з боку міліцыі або службы аховы нейкай камерцыйнай установы, то чаму б не скарыстацца такой магчымасцю?

Натуральна, што такі дакумент не ёсць гарантаваным сродкам, каб развязаць язык чыноўнікам ці адкрыць дзверы ў кабінеты ўлады. Таксама ён, як і дзяржаўнае пасведчанне, не заўсёды абароніць ад збіцця, затрымання або арышту на суткі.

Аднак, як паказвае практыка, такая прэс-картка дапамагае простым людзям і афіцыйным асобам ідэнтыфікаваць вас у якасці журналіста. А гэта вельмі часта аблягчае выкананне прафесійных задач.




*Магчымы варыянт афармлення задняга боку фрылансерскага пасведчання. Узгадваецца гарантаванае Канстытуцыяй права на доступ да інфармацыі.*

**Як фрылансеру сябе называць?**

Бывае, што фрылансеры-пачаткоўцы знаходзяцца ў разгубленасці: як прадстаўляцца, калі ты хочаш узяць каментар? Тут усё проста.

**Калі вы працуеце па тэлефоне**, то назавіце вашае імя і скажыце, што вы рыхтуеце матэрыял для канкрэтнага СМІ.

**Калі вы шчэ не ведаеце, каму прададзіце матэрыял**, скарыстайцеся метадам амерыканскіх акцёраў, пра якіх аўдыторыя ўжо забылася. Яны кажуць: “Прывітанне, я Эндрю Дуглас. Вы можаце ведаць мяне па такіх фільмах, як “Адкуль на небе зоркі” і “Паходжанне мексіканцаў”. Сёння я вам раскажу…” і г.д.

**Калі вы кантактуеце праз інтэрнэт**, а гэта самы бескантактная камунікацыя, то вашая задача найпрасцейшая. У якасці прывітання напішыце, ад каго і чаму рэспандэнт атрымаў ліст. Надаць грунтоўнасці вашым словам можна праз далучэнне некалькіх лінкаў на вашыя прэзентацыйныя журналісцкія работы або нават на ваш уласны сайт.

**Калі вы маеце сустрэцца з вашым рэспандэнтам**, то пастарайцеся, каб падчас вашай папярэдняй тэлефоннай размовы ў яго не ўзнікла падазрэння, што ён мае справу з нейкім шарлатанам. Калі вы пабачыцеся, можаце працягнуць яму вашую візітоўку, дзе пазначана, што вы журналіст, або паказаць пасведчанне. Людзі звычайна настроеныя больш міралюбна, чым мы пра іх мяркуем. І ў выпадку калі вы паказваеце суразмоўцы пасведчанне фрылансера, а чалавек не ведае, што гэта такое, знайдзіце хвілінку і патлумачце, што гэта значыць. У маёй практыцы быў выпадак, калі прыйшлося расказваць пра фрыланс-журналістыку намесніку мэра Гомеля. І гэта спрацавала.

**Прычыны, па якіх фрылансеры пачуваюць сябе няёмка** пры кантакце з крыніцамі інфармацыі, часта крыюцца ў псіхалагічным аспекце. Журналісты змагаюцца са страхам, што ім адмовяць у інфармацыі, пераадольваюць няўпэўненасць, якую нараджае дыскрымінацыйнае стаўленне да фрылансераў у грамадстве.

Адзін са шляхоў развязання гэтых праблем — практыка і асабісты досвед. **Страх скончыцца**, калі вы пабачыце, што пасля тэлефоннай размовы, напрыклад, з Ярмошынай, нічога страшнага не адбылося, а наадварот, вы атрымалі класны каментар. **Упэўненасці паболее**, калі гэты матэрыял перадрукуюць іншыя медыі, а рэдактар заплоціць вам добры ганарар.

**Добрая рэпутацыя значыць больш, чым добрае пасведчанне.**
Найлепшы шлях да добрых працоўных стасункаў з крыніцамі інфармацыі — гэта самі добрыя стасункі. Па магчымасці, асабіста знаёмцеся з супрацоўнікамі прэс-службаў розных установаў, каб людзі вас памяталі, каб не забываліся запрашаць на важныя мерапрыемствы. Падчас кантакту з новымі асобамі старайцеся зарэкамендаваць сябе ў якасці добрага журналіста. Калі вашыя суразмоўнікі будуць адгукацца пра вас пазітыўна, у тым ліку сярод сваіх знаёмых, гэта саслужыць вам добрую службу. У рэшце рэшт, вы самі ўсё гэта ведаеце, бо, так ці іначай, усе пытанні зводзяцца да стварэння добрай рэпутацыі.

# Фрылансер і праваахоўныя органы

**Міліцыя, пракуратура, суд**

Паводле вынікаў журналісцкага анкетавання, у рэйтынгу праблематычнасці міліцыя, пракуратура і суды стаяць на другім па перыядычнасці і адчувальнасці месцы. Справядлівасць гэтых суб'ектыўных ацэнак падмацоўваюць аб'ектыўныя дадзеныя прававога маніторынгу.

## Маніторынг парушэння правоў журналістаў-фрылансераў



Напрыканцы 2012 года сябры ГА "БАЖ" Вольга Чарных і Антон Сурапін займаліся аналізам парушэнняў правоў фрылансераў у перыяд са снежня 2010 да верасня 2012 гг. Для маніторынга быў абраны міжвыбарчы перыяд, бо ціск на незалежных журналістаў актывізуецца менавіта падчас выбараў, і гэты адрэзак часу з'яўляецца найбольш паказальным. У маніторынг патрапілі каля 120 выпадкаў датычных парушэння правоў выключна фрылансераў.

Паводле атрыманых дадзеных, у залежнасці ад сітуацыі парушэнні правоў фрылансераў падзяляюцца на дзве вялікія катэгорыі:



